Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 6 (28) ВІЛЬНЯ, 5 ЧЭРВЕНЯ 1938 г. ГОД III

## ПАМІЖ МАСКВОЮ і ВАРШАВАЮ.

Беларусь ляжыць паміж двама цэнтрамі, якія імкнуліся і імкнуцца да гэгэмоніі на ўсходня-эўрапэйскай раўніне: паміж Масквою і Варшаваю. Гэтыя два цэнтры прадстаўляюць сабою два найвялікшыя славянскія народы (калі ня лічыць украінскага народу, які дагэтуль быў у заняпадзе) і заўсёды знаходзіліся да сябе ў палітычнай, культуральнай і рэлігійнай рывалізацыі і варожасьці. Характэрная рэч, што на працягу гісторыі мы ня бачым ня толькі дружбы паміж гэтымі цэнтрамі, але нават нейкай супольнай ідэі; кожны цэнтр імкнецца пры помачы культуры, рэлігіі, а часта і аружнага змаганьня накінуць другому цэнтру сваю волю.

Каб дайсьці да сваіх мэт, кожны цэнтр тварыў на працягу вякоў свае *ідэолёгічныя тэорыі,* на падставе якіх хацеў абаснаваць разумова свае імкненьні і даць грамадзкай волі імпульс да дзеяньня. Бо ўжо мусіць такая воля людзкая, што ў кожным сваім дзеяньні хоча мець разумовае абаснаваньне!

*З боку Масквы* ў апошніх стагодзьдзях былі створаны такія тэорыі: панславізм, нэаславізм і эўразійства. Апроч гэтых тэорыяў Масква ў апошнім часе прысвоіла сабе пазычаную ад Зах. Эўропы тэорыю марксаўскага камунізму.

*З боку Варшавы* тварылася і разьвівалася праз усе стагодзьдзі г.зв. Ягайлаўская ідэя, потым славізм, а ў апошніх часох славянская ідэя і промэтэізм. Прыгледзімся да ўсіх гэтых тэорыяў, твораных як Масквою так і Варшаваю.

Тэорыі з боку *Масквы:*

*Панславізм* — гэта кірунак, які ідзе да з'адзіночаньня ўсіх славянскіх народаў пад павадырствам Расеі. Гэта тэорыя зьяўляецца ўжо ў XVIII стагодзьдзі, але афармляецца і ўводзіцца ў жыцьцё ў першай палавіне XIX стагодзьдзя. Спачатку панславізм мае характар літаратурна-навуковы, але потым, калі ідэолёгі і прыхільнікі панславізму даходзяць да вялікіх уплываў (за Аляксандра II), яны ня толькі дзеюць на грамадзкую апінію пры помачы друкаванага слова, але і кіруюць дзяржаўнаю палітыкаю ў духу сваіх ідэяў. Панславісты кідалі ў масы кліч асвабаджэньня і злучэньня пад Расеяй ўсіх паняволеных Турцыяй і Аўстрыяй славянскіх народаў. Кліч гэты быў выражаны Пушкіным у ведамым сказе: „Всѣ славянскіе ручьи сольются въ русскомъ морѣ". У імя панславізму Расея вяла войны з Турцыяй і Аўстрыяй. Мэта яе была: апанаваць Босфар і Дарданелы і дайсьці праз Баўгарыю і Сэрбію да Міжземнага мора. Найбольшых прыхільнікаў меў (і мае) панславізм пасярод чэхаў, іншыя славянскія народы адносіліся да яго крытычна, відзячы ў ім расейскі імпэрыялізм.

На пачатку XX-га стагодзьдзя на зьмену панславізму зьяўляецца *нэаславізм.* Расея, пабітая ў 1905 г. Японіяй, зварочвае свае вочы ізноў на Захад, будуючы на гэты раз пляны ня толькі ў кірунку Турцыі і Аўстрыі, але і Нямеччыны, як найбольшага ворага славянства. Паводле нэаславянізму кожны зах. славянскі народ павінен быць вольны, нават злучаная Польшч мела дастаць нейкую аўтаномію. Акцыя Расеі спаткалася з прыхільнасьцяй ня толькі чэхаў, але і паўднёвых славян, асабліва сэрбаў. У імя нэаславянскіх ідэяў Расея пачала вайну з Аўстрыяй, Нямеччынай і Турцыяй у 1914 годзе, але праіграла яе. Пасьля гэтага зьяўляюцца дзьве новыя тэорыі: камунізм (у Расеі) і эўразійства (на эміграцыі).

*Камунізм,* як грамадзкая тэорыя, для ўсіх ведамая. У нацыянальным пытаньні яна спачатку была даволі лібэральная і давала кожнаму народу магчымасьць культуральна-нацыянальнага разьвіцьця. Аднак потым, праканаўшыся, што за тварэньнем нацыянальнай культуры ідзе тварэньне палітычнай самабытнасьці і незалежнасьці, маскоўскія камуністы перамяняюць тактыку і ідуць да зблізкэньня гэных народаў з культурай і нацыяй расейскай. Мэта іх цяпер: тварэньне аднаго „савецкага" (чытай: расейскага) народу, як прылады да будучай сусьветнай рэвалюцыі.

*Эўразійства* пачало разьвівацца пасьля Вялікай вайны, калі быў спынены расейскі неаславянскі паход на Захад і пераможаная Расея была адсунута на Усход. Паводле эўразійства вялікадзяржаўніцкія мэты Расеі ляжаць не на Захадзе, а на Ўсходзе, дзе яна павінна асыміляваць эўразійскія народы, ляжачыя на эўропаазійскай раўніне (згэтуль і назоў „Эўр-Азія"). Паводле эўразійства, Расея, прыбліжаючы эўразійскія народы да сябе, павінна сама прыблізіцца да іх і гэтакім парадкам стварыць адзіны эўразійскі народ, як сынтэзу Усходу і Захаду. Гэта сынтэза мае абняць жыцьцё палітычнае, культурна-нацыянальнае, грамадзкае і нават рэлігійнае. Эўразійства пасярод расейцаў мае прыхільнікаў мала і ягонае значэньне было-б куды меншае, калі-б ягоная цэнтраля ня памяшчалася ў Бэрліне, для каторага ўсходні кірунак эўразійства вельмі карысны...

Гэтакім парадкам мы разгледзелі важнейшыя палітычныя кірункі Масквы, а цяпер пярэйдзем да разгляду гэткіхжа кірункаў *Варшавы.*

Тут на першым пляне трэба паставіць *Ягайлаўскую ідэю.* Створаная наступнікамі Ягайлы гэта ідэя была прынята і ўводжана ў жыцьцё польскімі палітыкамі праз цэлыя стагодзьдзі аж да падзелу Польшчы. Цяпер яна мае болей дэкарацыйнае чым практычнае значэньне. Падставы Ягайлаўскае ідэі такія: згоднае сужыцьцё Польшчы і Вял. Княства Літоўскага ў аднэй Рэчыпаспалітай; асыміляцыя палітычная, культуральная і рэлігійная народаў В. Кн. Літоўскага; балтыцкая экспансія Рэчыпаспалітай (войны з Швэцыяй); Чорнаморская экспансія (войны з Турцыяй); урэшце ўсходняя экспансія, якая прывяла да сьмяротнага змаганьня з Расеяй. Для большай папулярнасьці злучэньня з Польшчай народаў В. Кн. Літ. быў кіданы кліч: „вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі", які і цяпер часта дзеля прыкрасы кідаецца некаторымі романтычнымі палітыкамі. Трэба прызнаць, што Ягайлаўская ідэя аджыла свой век і ў сяньняшніх новых абставінах не высоўваецца нават рэальна думаючымі палякамі.

На зьмену ёй ўжо на пачатку XIX-га стагодзьдзя была высунута новая тэорыя — *славізм,* якая мела быць процiўвагай для расейскага панславізму. Паводле гэтай тэорыі (якую ў сваім часе паддзержываў Адам Чартарыйскі), кожны славянскі народ павінен мець усе магчымасьці нацыянальнага і культурнага разьвіцьця аж да незалежнасьці. (Польшч тады ня мела незалежнасьці). У апошніх днях тэорыя славізму аджыла пад назовам *славянскай ідэі,* якую пачаў шырыць ген. Жэлігоўскі і іншыя. Сутнасьць славянскай ідэі ў тым, што ўсе славянскія народы павінны злучыцца пад павадырствам Польшчы. Значыць, славянская ідэя — гэта тойсамы панславізм, толькі ў польскім выданьні. Некаторыя польскія палітыкі вылучаюць ад „славянскай ідэі" расейцаў, як быццам народ неславянскі.

*Промэтэізм* апошняя і яшчэ мала ведамая польская паліт. тэорыя. Сутнасьць яе ў тым, што ідзе да падзелу (парцэляцыі) Расеі на паасобныя нац. дзяржавы. Шырыць яе У. Бончкоўскі і часапіс „Myśl Polska". Гэта тэорыя вельмі блізкая да тэорыі польскага імпэрыялізму братоў Бохэнскіх з варш. „Polityki", аб каторым мы ўжо двойчы пісалі; розьніца паміж імі такая, што імпэрыялізм братоў Бохэнскіх імкнецца галоўна да разьвязкі ўкраінскага пытаньня пад эгідай Польшчы і экспансіі на Усход, а промэтэізм Бончкоўскага ідзе агулам да парцэляцыі Расеі. Як імпэрыялізм так і промэтэізм маюць шмат прыхільнікаў паміж уплывовымі кругамі Польшчы.

Гэтак прадстаўляюцца галоўныя тэорыі Масквы і Варшавы, якімі гэтыя два цэнтры стараюцца ідэолёгічна абаснаваць пляны сваей экспансіі: першы — на Захад, другі на Усход. Усім ведама, што на полі дзеяньня гэтых тэорыяў і плянаў знаходзіцца Беларусь, дык пазнаньне іх для кожнага беларуса ёсьць вельмі карысным. Крытыку некаторых тэорыяў мы падаём у гэтым нумары, а некаторых адкладаем на другі раз. Цяпер адзначым толькі, што гэтыя два цэнтры, Масква і Варшава, залежаць яшчэ ад большых і сільнейшых цэнтраў: Токіо і Бэрліна, на восі каторых ляжыць ня толькі Беларусь, але Масква і Варшава.

Токіо і Бэрлін твораць яшчэ шырэйшыя тэорыі і пляны, але аб іх у наступным нумары.

# Сэнсацыйныя весткі аб Тухачэўшчыне.

Савецкі маршал Тухачэўскі, як ведама, быў растраляны 12. VI. 1937 г. разам з іншымі выдатнымі павадырамі сав. арміі і партыі. Тады няясны былі прычыны такой рашучай распраўы Сталіна з сваімі найлепшымі генэраламі, а цяпер гэтыя прычыны выясьняюцца. Кажуць, што **Тухачэўскі быў сапраўды ў змове з Нямеччынай з мэтай зваленьня Сталіна і ўвядзеньня ў Расеі нацыянальнага камунізму.** Прыгэтым усё было ўложана і ўплянавана: пры помачы адданых людзей з маскоўскага гарнізону змоўнікі меліся захапіць Крэмль і забіць Сталіна; тады „на помач“ мелі пасьпяшыць у Маскву з сваімі карпусамі Убарэвіч, начальнік Беларускага вайсковага вокругу і Якір, начальнік Украінскага вайск. вокругу (яны былі ў змове з Тухачэўскім), як начальнікі двух найболей высунутых на захад і сільных вайсковых акругоў. Але аб гэтым пляне даведалася разьведка аднэй з заходніх дзяржаў, якая знаходзіцца ў саюзе з Саветамі, яна дала знаць Сталіну, а той расправіўся з змоўнікамі так, як умеў... Змова была выкрыта быццам у апошнюю мінуту, проста, як гэта кажуць, пяць мінут перад дванаццатаю, калі да выступленьня ўсё было прыгатавана! Кажуць яшчэ, што пасьля гэтай няўдачы наступіў ведамы разгон нямецкіх генэралаў з марш. Блёмбэргам на чале, а Гітлер узяў кіраўніцтва райхсвэрай і яе палітыкай у свае рукі.

Ясна, што ўсе гэтыя весткі праверыць цяпер трудна; іх выясьніць гісторыя, калі адчыняцца тайныя архівы і выйдуць на верх усе сакрэтныя ходы разьведак і дыпляматыі. Аднак і цяпер яны нам тлумачаць многа аб падзеях у Саветах, аб тамашніх працэсах і растрэлах, а галоўна—аб плянах Нямеччыны адносна Расеі.

Калі мы добра прыгледзімся да паліт. ходаў расейскага камунізму, дык у ходзе Тухачэўскага і тав. ня знойдзем нічога дзіўнага. Праўду кажучы, бальшавізм быў заўсёды моцна зьвязаны з нямецкай палітыкай. Пачынаючы ад 1917 году, калі Ленін, Троцкі і тав. былі з Швайцарыі правезены праз Нямеччыну ў заплямбаваным вагоне і скірованы ў Расею, каб там развалiць армію і прымусіць Расею да міру, бальшавізм супрацоўнічаў з нямецкай палітыкай. У 1922 годзе быў нават заключаны пакт у Рапальлё, які датычыў гандлёвага і гаспадарчага супрацоўніцтва паміж Саветамі і Нямеччынай, паміж райхсвэрай і чырвонай арміяй. Гэтае супрацоўніцтва трывала і за часоў Сталіна аж да прыходу да ўлады Гітлера (1933 г.). Тухачэўскі хацеў узнавіць гэтую старую традыцыю: ён хацеў пры помачы Нямеччыны скінуць „інтэрнацыянальнага“ грузіна, адбудаваць нацыянальную магутнасьць Расеі і заключыць з Нямеччынай саюз.

Для Нямеччыны пераварот Тухачэўскага і саюз з Расеяй таксама быў-бы вельмі карысны. Ён даўбы ёй вялікія і багатыя прасторы **ўсяе** аграмаднае Расеі, шырокія магчымасьці экспансіі на Усход, зьліквідаваў-бы ўсе ляжачыя цяпер паміж імі незалежныя дзяржавы, давёўбы да саюзу дзьвух вялікіх дзяржаў: нацыянальнай Расеі і нацыянальнай Нямеччыны, як за часоў Бісмарка, да гэтага саюзу, магчыма, далучыўся-б і Кітай — а гэта стварыла-б такую сілу, перад каторай схіліліся-б пакорна іншыя дзяржавы. Словам пэрспэктывы такія, для каторых варта рабіць у Саветах пераварот. А бяручы пад увагу з аднаго боку магутнасьць Нямеччыны, а з другога—ідэолёгічную блізкасьць нацыянальнага камунізму і фашызму (калі да камунізму дададзём нацыяналізм, атрымаем фашызм!) дык магчымасьць перавароту ў Расеі і ням-расейскага саюзу стане зусім рэальнай.

Трэба прызнаць, што гэты саюз для беларусаў быў-бы вельмі некарысны, як і для ўсіх народаў, якія ляжаць паміж Расеяй і Нямеччынай. Ведама, што для ўсіх страшны „інтэрнацыянальны“ камунізм Сталіна, але яшчэ страшнейшы нацыянальны камунізм Тухачэўскага. Тады былі-б зьліквідаваны аканчальна ўсе нацыянальныя здабыткі беларусаў, так як і іншых народаў на прасторы Расеі; зьнікла-б надзея на адбудову незалежнай Беларусі, якая можа паўстаць і існаваць толькі пры варожасьці Нямеччыны і Расеі; Беларусь, магчыма, яшчэ раз была-б падзелена паміж магутнымі суседзямі— словам саюз Нямеччыны і Расеі для беларусаў вельмі грозны. І хто ведае, у якім кірунку будуць разьвівацца падзеі ў будучыне і ці не наступіць яшчэ згода паміж Гітлерам і Сталінам?

Трэба ведаць, што Сталін ідзе цяпер па лініі расейскага нацыянальнага камунізму, так як і Тухачэўскі; апроч гэтага у Саветах магчымы яшчэ розныя перавароты, а тады што? **Тады нямецка-расейскі саюз зусім магчымы...**

Але тады стварыўсяб аграмадны блёк пакрыўджаных Расеяй і Нямеччынай народаў: беларусаў, украінцаў, палякаў, чэхаў, славакаў, літоўцаў, латышоў, эстонцаў і іншых, якія адчулі-б цяжкую руку нямецка-расейскага саюзу. Гэты блёк палічваў-бы да 100 мільёнаў душ, якіх лучыла-б адна мэта: дайсьці да вызваленьня. Тады, магчыма, мела-б застасаваньне і „славянская ідэя“ ген. Жэлігоўскага. Пры іншых варунках у яе ніхто ня верыць! Ці гэты вялізарны блёк удалося-б расейска-нямецкаму саюзу здушыць? Ці можа наадварот, ён пры дагодных абставінах узарваў-бы знутра магутнасьць абедзьвух дзяржаў? Вось пытаньні, над каторымі трэба прызадумацца ўсім ініцыятарам нямецка - расейскага саюзу!

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Сьмерць Канавальца.** Дня 23.V згінуў у Ротэрдаме (Галяндыя) ад узрыву бомбы ведамы ўкраінскі тэрорыст палкоўнік Аўгень Канавалец, начальнік УВО (Укр. Вайсковай Арганізацыі), потым ОУН (Арг. Укр. Нацыяналістаў), якія дзеялі ў граніцах Польшчы. Усе тэрорыстычныя акты, якія мелі месца ў Польшчы з боку ўкраінцаў, прыпісваюць Канавальцу і ягоным людзям. Апошнім часам К. пашырыў сваю дзейнасьць і на Сав. Украіну — і гэта прывяло К. да сьмерці. У Ротэрдаме К. быў назначыўшы спатканьне з адным матросам, па прозьвішчу Валюх(?), які прыкідываўся ўкраінцам, а ў сапраўднасьці быў агентам ГПУ. Ад Валюха К. атрымаў пачку, у якой быццам знаходзіліся матар'ялы аб дывэрсыі ў Саветах, а ў сапраўднасьці там была гадзіньнікавая бомба. Калі К. варочаўся з пачкаю у готэль, бомба выбухнула, разрываючы К. на часьці. Цікава, што вестка аб сьмерці К. зьявілася ў прэсе аж 30.V, значыць, тыдзень пасьля замаху. Валюх быццам уцёк на сав. караблі „Мэнжынскі“, які 24.V адплыў з Ротэрдаму. Забойства Канавальца яшчэ болей зактывізавала ўкр. справу на міжнародным грунце.

**З украінск. жыцьця ў Польшчы.** Адм. улады спынілі ў Львове дзейнасьць работніцкай арганізацыі „Сыла“, а так-жа „Саюзу Ўкраінак“, які налічваў 40 тысяч сябровак і 1.200 гурткоў. Разам з гэтым спынены часапісы Саюзу: „Жінка“ і „Украінка“. Адкліканы Укр. Кангрэс Культуры, які ладзіла „Просьвіта“ з прычыны 70-тых угодкаў свайго існаваньня. Адабраны ад украінскага грамадзянства „Украінскі Горад“ — пляц, дзе адбываліся спартовыя ігрышчы.

Цэнтральны Камітэт У Н Д О (Укр. Нац. Дэмакр. Аб'еднаньня) пастанавіў дамагацца **тэрытарыяльнай аўтаноміі** ўсіх укр. земляў, якія знаходзяцца ў граніцах Польшчы. Жаданьне гэтае выклікала неспакой у польскіх кругох, якія вяжуць яго з падзеямі ў Чэхаславаччыне.

**Адзіная нямецкая арганізацыя** ў Польшчы ўтварылася ў маі месяцы. Павадыр немцаў у Польшчы, сэнатар Гасбах, паведаміў аб утварэньні гэтай арганізацыі прэм'ера Складкоўскага, каторы паведамленьне прыняў да ведама. Частка польскай прэсы пачала пісаць, што Нямеччына пачынае і ў Польшчы ад утварэньня адзінай нямецкай арганізацыі, так як гэта зрабіла ў Чэхаславаччыне. На гэта сэн. Гасбах заявіў, што баяцца агульнанямецкай арганізацыі ў Польшчы няма падстаў, бо справа ўтварэньня такой арг. цягнецца ад 1933 году і нямецкая меншасьць у Польшчы не залежыць ад Бэрліна. Прыгэтым сэн. Гасбах успамінае і той факт, што палякі ў Нямеччыне маюць таксама сваю адзіную арганізацыю і ніхто ім у гэтым не перашкаджае і ня кідае падазрэньняў.

**У літоўцаў.** Пасьля зачыненьня Віл. Ваяводай Літ. Нав. Т-ва быў паданы ўрадам Т-ва рэкурс у Мін. Унутраных Спраў. Пасьля нармалізацыі дыпляматычных зносін з Літвою ўсе спадзяваліся, што М-ва пастанову Віл. Ваяводы адменіць, аднак сталася інакш: дня 31.V Урад Літ. Нав. Т-ва атрымаў з М-ва паперу, у якой паведамляецца, што рэкурс Т-ва астаўся бяз рэзультату... Прыгэтым трэба адзначыць, што пасьля г. зв. нармалізацыі ніводная літ. „завешаная“ або зачыненая арганізацыя ня была ажыцьцёўлена. Сапраўды, незразумелая палітыка!

# СЛАВЯНСКАЯ ІДЭЯ НА „РОЙСТАХ“.

**(З цыклю „Чаму бунтуюцца „Ройсты“?).**

Артыкул гэты мы друкуем ня ў тым парадку, які мы сабе назначылі: ў гэтым нумары мы меліся друкаваць артыкул на тэму „Матар'яльная галіта „Ройстаў“, але затым што польская віл. прэса пачала зьмяшчаць вельмі часта артыкулы на тэму **славянскай ідэі** („Słowo“ і „Kurjer Wil.“ аднaчасна ў нядзелю 22. V.), дык гэта знак, што нешта робіцца, што гэтая ідэя знайшлася на польскім палітычным варштаце, або прынамся ў кухні польскай палітычнай прэсы. У гэных артыкулах „Słowa“ і „Kurjera Wil.“ закранаецца і справа беларуская, для якой польскія палітыкі хочуць знайсьці разьвязку ў славянскай ідэі — дзеля гэтага тэма стаецца вельмі актуальнай, дык даём ей месца па-за чаргою.

У гэтым нумары „Б. Фр.“ у перадавым артыкуле мы вылічаем галоўная тэорыі Масквы і Варшавы, вядучыя да апанаваньня славянства і пашырэньня ўплываў нават за межы ягоны. Паміж гэтымі тэорыямі чытачы знойдуць азначэньне сутнасьці і мэт славянскай ідэі, дзеля гэтага паўтараць яе ня будзем. Папоўнім толькі новымі данымі, якія нам прынясьлі вышэй пададзеныя газэты.

„Słowo“ ў артыкуле ген. Жэлігоўскага, які аставіў ужо справу лёну і самаўраду, а ўзяўся за славянскую ідэю, сьцьвярджае, што славянская ідэя ня мае ў сучаснасьці свайго харунжага, які-б падняў кінуты Масквою славянскі сьцяг, дык падняць гэты сьцяг павінна Польшч, бо гэта ёсьць яе гістарычны абавязак і найбольшая рацыя яе быту. На Усходзе і Захадзе, кажа „Słowo“, зьбіраюцца вялікія, градавыя хмары, сяньня або заўтра можа расхадзіцца бура, дык палякі павінны прыпомніць сабе, што яны славяне і стаць на чале Славянскай Ідэі. Каліб гэта ня сталася, Польшчы гразіць утрата незалежнасьці. Тады калі падымаюцца легендарныя рыцары рымскія і германскія, славянскі рыцар знаходзіцца ў летаргічным сьне—канчае рамантычна „Słowo“.

„Kurjer Wil.“ падыходзіць да справы болей рэальна. Ён спачатку сьцьвярджае факт, што ў Эўропе пад уплывам Гітлера распачаўся працэс адзіночаньня грамадзянстваў ужо не на падставе нацыянальнай, але расістаўскай, што не нацыя будзе адыгрываць ролю ў будучыне, але раса. Польшч ня можа сама проціставіцца германізму, але гэта можа зрабіць славянства, славянская раса. Пазнанскі селянін быццам кажа: „Калі скажу немцу, што я паляк, то ён і вухам не вядзе (nic sobie z tego nie robi), але калі скажу, што я славянін, дык ён глядзіць на мяне са страхам“. Значыць, паводле „Kurjera Wil.“, трэба адрадзіць славянскую ідэю. Польскі народ мае ўсе даныя дзеля злучэньня ўсяе славяншчыны пад сваею гэгэмоніяй. Трэба разьвеяць фальшывае прaкананьне аб славянскасьці Масквы і вырваць аб гэтым прaкананьне з чэскага народу. А тут, у Вільні, славянская ідэя зможа заступіць праграму ў беларускай справе і, паводле „Kurjera Wil.“, гэта ідэя адным махам разьвяжа дзьве справы: 1) аберне фальш аб тым, што беларуская культура і мова ёсьць бліжэйшымі да расейскай, чым да польскай, 2) створыць абаснаваньне для згоднага і братняга сужыцьця ўсіх беларусаў з палякамі ў аднэй дзяржаве. Уканцы „Kur. Wil.“ згаджаецца на стварэньне незалежнай Украіны па-за граніцамі цяперашняй Польшчы і хваліць польскае міністэрства загр. спраў за праводжаньне славянскай ідэі ад Карпат па Адрыятыцкае мора.

Гэтак прадстаўляецца „славянская ідэя“ ў разуменьні польскіх палітыкаў.

Разважаючы гэту ідэю з беларускага пункту гледжаньня, трэба сьцьвердзіць, што прычыны заінтарасаваньня ёю з боку польскіх палітыкаў зусім не ляжаць у славянскіх сымпатыях да яе польскага грамадзянства. Праз 20 гадоў польскае грамадзянства мела многа аказіі, каб выказаць свае сымпатыі да славянскіх братоў беларусаў і ўкраінцаў, якія знайшліся ў граніцах Польшчы і ня выказала іх. Цяпер, калі Польшч пачулася загрожанай з боку германства, польскія палітыкі пачалі галасіць аб славянскай ідэі. Калі ген. Жэлігоўскі цьвярдзіць, што славянскі рыцар дрэмле ў летаргічным сьне, мы яму адкажам, што наадварот: ён праз ўвесь час працаваў, каб **„завесіць“** на нашых землях славянскую ідэю. Ген. Ж. кажа, што вялікая славянская ідэя праз падзел Польшчы была падзёрта на часьці, паніжана і стаптана. А што сталася з Беларусяй?

Далей ген. Ж. кажа, што Расея перад вайною тварыла і выкарыстоўвала славянскія рухі, каб апраўдаць падзел Польшчы, дайсьці да Канстантынопаля, русыфікаваць „братоў славян“ і г. д., а хто можа заручыцца, што славянская ідэя, якую цяпер падымаюць польскія палітыкі, ня будзе служыць падобным мэтам? Тымболей, што ўспомнены „Kurjer Wil.“ выразна кажа, што славянская ідэя стварае абаснаваньне для згоднага і братняга сужыцьця **ўсіх беларусаў** з палякамі ў аднэй дзяржаве! Значыць, славянская ідэя пад эгідай Поль-

# На беларускім грунце

## ДА БЕЛАРУСКА-УКРАІНСКІХ АДНОСІН.

„Хр. Думка“ ў 15-ым нумары сёлета ў артыкуле „Беларусы і Ўкраінцы“, (які быў перадрукаваны ў „Шляху М.“) выступіла проціў нас за тое, што мы зьмясьцілі слова праўды па адрасу ўкраінскага „Вістника“ і грам. Піліпчука, які ў глумны спосаб напаў на Я. Купалу і на ўвесь беларускі народ. Трэба з сумам сьцьвердзіць, што выступленьне „Хр. Думкі“ мала розьніцца ад даўнейшых і цяперашніх выступленьняў проціў нас „Шляху Моладзі“. У выступленьні „Хр. Думкі“ кідаецца ў вочы наўперад тое, што няма там рачовых і паважных думак, якія-б асьветлілі Піліпчукову напасьць з пункту гледжаньня беларускага; няма там ані абароны Я. Купалы ані беларускага народу, але затое ёсьць многа злоснай інсынуацыі, многа падтасовы і перакручваньня нашых сказаў, або і звычайнай няпраўды і паклёпаў. Галоўным паклёпам ёсьць цьверджаньне, што мы выступілі проціў усяго ўкраінскага народу; што нашае выступленьне гарманізуе з плянамі нейкага польскага палітыка Бобжанскага (?), аб каторым мы і ня чулі; далей „Хр. Думка“ перакручвае нашы сказы і заяўляе, што мы хочам, каб беларусы стварылі свой сільны палітычны цэнтр у Полацку (!), які-б мог проціўставіцца заборчасьці ўкраінцаў; урэшце „Хр. Д.“ кажа, што наступіла вытлумачэньне інцыдэнту як з боку ўкраінскага так і беларускага і інцыдэнт зьліквідаваўся.

На ўсё гэта адказваем:

1) Мы ніколі і нідзе не выступалі проціў усяго ўкраінскага народу, а толькі проціў тых украінскіх пісьменьнікаў і палітыкаў, якія крыўдна адносяцца да беларускага народу і шкодзяць яму. Дзеля гэтага цьверджаньне „Хр. Д.“, што мы выступілі проціў усяго ўкраінскага народу называем інсынуацыяй і паклёпам.

2) Выступаць у абароне свайго народу ўважаем за абавязак нават і тады, калі напасьць паходзіць з радоў прыязнага нам украінскага народу.

3) Ліквідаваць гэты прыкры інцыдэнт павінна рэдакцыя „Вістника“, а не „Хр. Думка“ ці хто іншы. Тымчасам мы аб такой ліквідацыі ці тлумачэньні дагэтуль ня чулі. Нам здаецца, што „Хр. Думка“ ня мае права прамаўляць ад імя „Вістника“, або грам. Піліпчука ці каго іншага. Мы ня чулі таксама аб упаважненьні яе прамаўляць ад імя ўкраінскага грамадзянства. Роля „Хр. Думкі“ ў гэтай справе незразумелая.

4) Уважаем, што стварэньне сільнага беларускага палітычнага цэнтру, які-б узяў спадчыну па Полацку, ёсьць жыцьцёвай канечнасьцяй беларускага народу. Наша думка такая: калі існуюць тры цэнтры, якія маюць прэтэнсію да беларускіх зямель, трэба стварыць чацьверты, беларускі, які-б бараніў гэтых зямель аб суседзкай прагавітасьці. Але стварэньне такога цэнтру залежыць ня толькі ад беларускага народу, але і ад суседніх цэнтраў, наўперад Масквы і Варшавы, а такжа Кіева, а можа і іншых, якія да новага цэнтру ня будуць роўнадушны. Яны будуць яму або памагаць, або перашкаджаць, залежна ад сваіх палітычных інтарэсаў. Магчыма, што стварэньне беларускага цэнтру будзе ляжаць у інтарэсе Варшавы, або Масквы, або Кіева. З тым цэнтрам, які будзе спагадаць утварэньню беларускага цэнтру, беларусы будуць у супрацоўніцтве, а з тым, які будзе перашкаджаць, будуць у варожасьці. Гэта для ўсіх ясна. Нам здаецца, што ўтварэньне беларус. цэнтру ляжыць у інтарэсах Кіева, дык на нашу думку дрэнна робяць тыя ўкраінскія палітыкі, якія бяз дай прычыны шкодзяць беларускаму народу або абражаюць яго. Гэтым яны шкодзяць і нам і сабе. Такія шкодныя выступленьні ўкраінскіх палітыкаў павінны знайсьці адпор з боку беларускага, бо гэтага вымагае нашая нацыянальная чэсьць.

Гэта ёсьць нашы тэзы адносна „інцыдэнту“ і нашай палітычнай лініі, а цяпер адносна „Хр. Думкі“.

1) „Хр. Думка“ ня выступіла ў абароне ані Я. Купалы ані беларускага народу, хоць абразу іх сьцьвердзіла, але выступіла проціў нас, што баранілі як аднаго так і другога.

2) „Хр. Думка“ над выступленьнем „Вістника“ і абразай беларускага народу з боку Піліпчука перайшла да парадку дня і прызнала „інцыдэнт“ за зьліквідаваны.

3) Калі гэты „інцыдэнт“ „Хр. Думка“ ўважае за зьліквідаваны, то нашто яго парушыла на сваіх бачынах, дый яшчэ у гэтакі нягодны спосаб? Можа „Хр. Д.“ гэтым хоча пасварыць нас з украінскім грамадзянствам? А можа хоча адыграць ролю „чорнага ката“, які перабягае дарогу паміж беларусамі і ўкраінцамі? У кожным выпадку „Хр. Д.“ узяла на сябе вельмі нягодную ролю.

Нашы прынцыповыя адносіны да ўкраінскага народу мы выразілі на пачатку нашага выдавецтва, калі пісалі:

„Не памылімся, калі скажам, што ўвесь беларускі народ сэрцам ар'ентуецца на ўкраінскі народ і шукае з ім дружбы. Праўда, былі некаторыя дысонансы ў беларуска-ўкраінскіх адносінах, як напр. дэкрэт ўкраінскага ўраду аб далучэньні Гомельскага, Рэчыцкага, Мозырскага і Пінскага паветаў разам з чыгункаю Лунінец — Гомель да Украіны (1918 год), цяперашнія прэтэнсіі некаторых украінскіх этнографаў да ўсяго (г. зн. і паўночнага) Палесься, але гэтыя дысонансы не маглі папсаваць добрых адносін паміж беларусамі і ўкраінцамі. Прыгэтым трэба адзначыць, што да ўкраінцаў чуюць вялікую сымпатыю ня толькі беларускія дзеячы, але і шырокія народныя масы... Гэта ўсё спрыяе наладжаньню добрых адносін паміж двама народамі“. („Б. Фр.“ № 9, 1936 г.) Гэтак мы пісалі блізу два гады таму, гэтак думаем і цяпер. Нашых адносін да ўкраінскага народу ня могуць папсаваць выступленьні „Вістника“ або грам. Піліпчука. Не папсуюць і перабегі „чорных катоў“ з „Хр. Думкі“ і „Шляху Моладзі“.

## КАНФІСКАТА „Б. ФРОНТУ“.

Папярэдні нумар „Бел. Фронту“ быў сканфіскаваны за артыкул „З жыцьця вёскі“. Віл. Гарадзкое Старства дагледзела ў ім праступак, прадбачаны арт. 170 к. к. (пашыраньне фальшывых вестак).

## ЗАЧЫНЕНЬНЕ „БЕЛ. ГАСП. ЗЬВЯЗУ“.

Пастановай Віл. Ваяводы з дня 16. V. „Бел. Гаспадарскі Зьвяз“, які быў пару тыдняў таму „завешаны“, цяпер зачынены. Улады „Зьвязу“ адклікаліся ад гэтай пастановы да Мін. Унутр. Спраў.

## СПРАВА БЕЛ. МУЗЭЮ.

Адм. улады хочуць утварыць у Вільні г. зв. рэгіёнальны музэй „Ziem północno wschodnich“; у які ўвайшлі-б два музэі: беларускі і літоўскі. З гэтай мэтай запрапанавалі кіраўніку Беларускага Музэю А. Луцкевічу злучыць бел. музэй у гэным „рэгіёнальным музэі“ і абняць кіраўніцтва апошнім. Грам. Луцкевіч ад гэтай прапазыцыі адмовіўся, стаўшы на тым пункце гледжаньня, што такая „комасацыя“ крыўдна для беларускага імені і памяці Івана Луцкевіча, фундатара гэтага музэю. Воляй Нябожчыка было, каб гэты музэй быў **беларускі** і каб станавіў уласнасьць „Бел. Нав. Т-ва“. У адказ на гэтае ваяводзкія ўлады заявілі, што спыняюць дзяржаўную помач, выдаваную дагэтуль Музэю ў суме 400 зл. месячна.

## РЭФЭРАТЫ Ў БЕЛАРУСКІМ НАВУКОВЫМ Т-ВЕ.

1-мая др. Я. Станкевіч у Языкаведнай Сэкцыі Бел. Нав. Т-ва прачытаў рэфэрат на тэму „Мова дыплёматычнага лісту Рыскае Рады 1271-1280 г.г.“ Рэфэрант падрабязна дасьледаваў мову менаванага лісту. Найважнейшыя асаблівасьці беларускага языка XIII стаг., катарыя др. Станкевіч з усёй пэўнасьцяй давёў на аснове мовы лісту— гэта 1) падваеньне сугукаў і 2) аканьне. З лісту такжа відаць, што заходне-эўропэйскія словы прыходзілі ў беларускую мову беспасярэдне (а не цераз Польшчу) ў Рыгу, а мо й Вільню й Горадзен. Пісар менаванага ліста паходзіў з паўночна-ўсходніх беларускіх земляў і пісаў сьвядома пабеларуску, не стараючыся захварбаваць сваю мову царкоўна-славянізмамі.

Выходзячы з менаванага ліста і маючы наўвеце такжа іншыя тагачасныя памяткі беларускія, др. Стан. скончыў свой рэфэрат гэткімі словамі:

„З вышсказанага ясна, што калі ў Ліцьве (па старой тэрмінолёгіі) беларускі язык стаў языком гаспадарсьцьвеным і літаратурным і моваю асьвячоных клясаў бяз розьніцы нацыянальнасьці, дык гэта сталася ня дзякуючы прыпадку, што Беларусы займалі сярэдзіну гэтага гаспадарства і ня вылучна таму, што Беларусы гэтае гаспадарства стварылі і ім кіравалі, але яшчэ й таму, што за даўгую пару грамадзкага й культурнага жыцьця была зроблена прыгатова да раньняй літаратурнасьці беларускага языка ў гэтым задзіночаным беларускім гаспадарсьцьве“.

---

шчы адбірае ад беларусаў надзею будаваньня незалежнай беларускай дзяржавы нават на той бок рыскае мяжы! А „Słowo“, якое цяпер найболей стаіць за славянскую ідэю, няраз выказвала свой прынцып бязьлітаснай асыміляцыі беларусаў у Польскай дзяржаве! Дык якая можа быць **славянская** ідэя, калі **славянскаму** народу адмаўляецца права на існаваньне? Ці яе можна назваць **славянскай** ідэяй? Нам здаецца, што не. Яе можна і трэба назваць польскай нацыяналістычнай або імпэрыялістычнай ідэяй. І толькі.

Польская палітыка на працягу апошніх двух дзесяткаў гадоў зрабіла шмат памылак, а асабліва на Усходзе. Забясьпечаная на Захадзе слабасьцю пасьляваеннай Нямеччыны і саюзам з Францыяй, польская палітыка зьвярнула ўсе свае сілы на Ўсход, каб там праводзіць г. зв. Ягайлаўскую ідэю. Мэта яе была такая: пашырыць і ўгрунтаваць польшчыну на беларускіх і ўкраінскіх землях. Спасабамі да гэтай мэты мелі быць: дзяржаўны апарат з адміністрацыяй, школамі і самаўрадам; уплыў польскай культуры, а такжа уплывы касьцёлу і царквы, якім некаторыя дзейнікі стараліся даць характар польскі. Пры такой лініі, паводле некаторых польскіх палітыкаў (як напр. б. прэм'ера Скульскага) за 50 гадоў беларусаў у Польшчы ня былоб. Мы ня верым у тое, каб беларусы, якія існавалі болей 1000 гадоў і стварылі сваю багатую культуру маглі за 50 гадоў адрачыся ад сваей народнасьці і згінуць, але ясна, што магліб пацярпець вялікія страты. Відаць, на гэтыя страты і рахавалі польскія палітыкі, не праймаючыся тады славянскай ідэяй. Якія-ж рэзультаты? А такія, што беларускія ройсты, вычуўшы інстыктоўна такую палітыку некаторых польскіх кругоў, увайшлі ў зямлю, закапаліся ў сваіх нетрах і чакаюць перамены...

Калі гэтак рабіла польская палітыка, расейская паступала зусім інакш. Яна на пачатку дала сякую-такую культуральную аўтаномію беларусам, закладала бел. школы, друкавала бел. кніжкі і падручнікі, наладзіла бел. радыё, завяла від беларускай дзяржаўнасьці — і ў рэзультаце прыцягнула беларусаў да сябе. Трэба прызнаць, што духовае змаганьне за беларускія масы Варшава праіграла на карысьць Масквы...

Чаму гэтак сталася?

Прычын многа. Першай і галоўнай прычынай была адсутнасьць гэтай-жа самай славянскай ідэі, якую цяпер так выцягваюць з архіву і рэклямуюць польскія палітыкі. Наагул, польская палітыка ня мела шчасьця ў суседзкім жыцьці. На Усходзе зьнеахвоціла да сябе беларусаў і ўкраінцаў, а літоўцы датаго ўзьеліся, што трэба было аж ультіматуму і ваеннай пагрозы, каб навязаць з імі дыпляматычныя і іншыя зносіны; на Захадзе польская палітыка ў сярэдніх вякох не магла знайсьці супольнай ідэі і згоды з славянскімі плямёнамі: люцічамі, оботрытамі і памаранамі, якія лучыліся з германцамі проціў Польшчы — аж пакуль ня зьгінулі ў абоймах германства... На гэтую дзіўную праяву зьвярнуў увагу праф. Брюкнэр у І-ым томе сваей капітальнай кнігі: „Гісторыя польскай культуры“. Гэтую самую праяву бачым цяпер на Усходзе, дзе беларусы і ўкраінцы ідуць у абоймы Масквы!.. Мы ня вінуем тут нашага народу, бо ўжо здаўных цьвярдзім, што **наш народ псыхічна непадгатаваны да змаганьня на два фронты.** Змагаючыся тут з паланізацыяй, ён няздольны да змаганьня з камунізмам—і дзеля гэтага ар'ентуецца на Усход. Змагаючыся там з камунізмам, ён, магчыма, ар'ентуецца на Захад, думаючы, што тут шчасьце... І гэтак цягнецца ягонае жыцьцё!

На наш пагляд, славянская ідэя, якую пачалі вясьціць польскія палітыкі, ня мае ў сучаснасьці пад сабою грунту. Яна маглаб узрасьці толькі на грунце **аднолькавых варункаў, у якіх апынуліся-б усе славянскія народы,** гэта значыць, **на грунце агульнай волі, або агульнай няволі.** Каліб усе славянскія народы мелі незалежнасьць, так як народ польскі, тады славянская ідэя былаб магчымая на падставе роўнасьці. І гэта быўбы найлепшы выхад. Але ёсьць і другі выхад, найгоршы: усе славянскія народы, сьціснутыя ў клешчы нямецка-расейскага саюзу, лучацца дзеля абароны сваіх найвялікшых нацыянальных правоў. Тады іх лучылаб таксама роўнасьць, але роўнасьць няволі. Аб магчымасьцях гэтай „роўнасьці“ мы пішам на іншым месцы. Значыць, галоўнай падставай для славянскай ідэі ёсьць такая ці іншая роўнасьць. Для беларускага народу ў сучасных варунках гэта „роўнасьць“ можа быць абы якая, бо „голы разбою не баіцца“, але для іншых народаў?

„Kurjer Wil.“ (24. V.) з прычыны сяньняшняга крытычнага палажэньня Чэхаславаччыны, выражае сваю „шадэнфройдэ“ (злосную радасьць) і кажа: „Вы самі хацелі, браты славяне“! Мы уважаем гэтую радасьць з чужога няшчасьця за неразумную. Хто ведае, ці ў будучыне ўсходнія славяне ня зьвернуцца з такімі самымі славамі да польскіх палітыкаў? Дык **славянская ідэя можа жыць і разьвівацца толькі на грунце роўнасьці і салідарнасьці ўсіх славян.** А да гэтага далёка — асабліва на беларускіх „ройстах“. Тут слявянскую ідэю „Słowa“ і іншых знаюць вельмі добра ў тэорыі, а яшчэ лепш — у практыцы...

**В. Г.**

# На міжнародным грунце

## СПРАВА ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЫ.

Трэба прызнаць, што справа Чэхаславаччыны была ў апошнім месяцы найболей грозным зьявішчам у міжнароднай палітыцы. Яна прыпамінала 1914 год, калі пасьля стрэлаў у Сараеве, пачалася Вялікая вайна. Прага робіць выгляд, што здэцыдавалася на ўсё: яна змабілізавала два гады рэзэрвы, абставіла нямецкую і польскую граніцу, пакапала акопы, паставіла барыкады — і чакае. Відаць, мае пэўнасьць, што Францыя, а за ею і Англія не пакінуць яе ў труднай часіне. А што Бэрлін? Гэты, здаецца, ня хоча пакульшто выклікаць сусьветнага пажару, але ідзе да „мірнага“ палагоджаньня справы. Тымболей, што выявілася вялікая тэндэнцыя ў гэтым кірунку англійскай і францускай дыплямацыі. Англія інтэрвэньюе ў Бэрліне, а Францыя ў Празе — і, здаецца, са скуткам. Чэхаславаччына мае даць поўныя правы нямецкай меншасьці (г. зв. судэцкім немцам), а Бэрлін адкладае на потым рэалізацыю сваіх плянаў. Якія гэта маюць быць пляны: ці нямецкі пратэктарат над усей Чэхаславаччынай, ці падзел яе — дагэтуль нявыясьнена. Нам здаецца, што Нямеччына ідзе да пратэктарату над **усей** Чэхаславаччынай, іншымі славамі, да ўключэньня цэлай і недзялімай Чэхасл. у сваю палітычную сыстэму. Толькі тады, калі ёй гэта ня ўдасца, Нямеччына можа пашукаць іншага выхаду... Адно толькі, што можа выклікаць аружнае выступленьне Нямеччыны — гэта праліцьцё нямецкай крыві чэхамі... Аднак чэхі, здаецца, і з гэтым ня лічацца і праліцьця крыві ня баяцца! Выносіцца нават ўражаньне, што чэхі хацелі-б новай вялікай вайны, як найлепшага для сябе выхаду з цяперашняга палажэньня. Забойства двух немцаў чэскай жандармэрыяй сьведчыць аб гэтых імкненьнях чэскай палітыкі. Магчыма яшчэ і тое, што гэтая рашучасьць патрэбна чэскаму ўраду ў ягоных гутарках з Гэнляйнам.

Унутры Чэхасл. ідзе далейшы развал. Ужо ня толькі немцы, але славакі, вугры і палякі выступілі з жаданьнем тэрытарыяльнай аўтаноміі. Прадстаўнік вуграў паехаў усьлед за Гэнляйнам у Лёндын, а славакі прывязьлі з Амэрыкі пітсбурскую ўмову, на падставе якой чэхі ў 1918 г. абяцалі ім даць аўтаномію — і дагэтуль не далі. Гэнляйн далей стаіць на грунце сваіх жаданьняў, каб немцы былі сугаспадарамі Чэхаславаччыны. Карэспандэнту англ. прэсы Гэнляйн заявіў, што за цану прыняцьця ягоных варункаў судэцкія немцы асталіся-б грамадзянамі Чэхаславаччыны. Калі-б Прага не захацела прыняць гэтых варункаў, ён будзе дамагацца плебісцыту для ням. меншасьці з клічам, ці яна хоча быць грамадзянамі Чэхаславаччыны, ці Нямеччыны. Калі-б Прага імкнулася да іншага вырашэньня справы і тасавала рэпрэсіі, не асталося-б іншага выхаду, як заклікаць ням. урад, каб далучыў судэцкіх немцаў да Нямеччыны! Гэтакія пляны Гэнляйна.

З другога боку калі-б Прага прыняла варункі немцаў, яна страціла-б уладу на абшарах, заселеных немцамі, бо аўтаномія, якой жадае Гэнляйн, ператварылаб Чэхаславаччыну ў кантанальную дзяржаву, а „згоднае кіраўніцтва супольнымі справамі“ давяло-б да сарваньня саюзу з Саветамі і Францыяй і да саюзу з Бэрлінам... Цікава, што Бэрлін заапекаваўся ня толькі ням. меншасьцяй у Чэхасл., але ўсімі, што выклікала трывогу ў некаторых суседзяў...

З прычыны буры над Чэхаслав. дзяржавы Сярэдняй Эўропы паставілі свае арміі на ваеннае палажэньне, а некаторыя (Вугрыя) аб'явілі нават частковую мабілізацыю. Чэскі штаб сканцэнтраваў свае войска над нямецкай і польскай граніцай, дзеля гэтага дайшло да дыпл. пратэстаў як з боку Нямеч. так і Польшчы. Чэхасл. адказала, што яна канцэнтруе свае войска, бо заўважыла тоежсамае і ў сваіх суседзяў... Трэба прызнаць, што польска - чэскія адносіны, так як чэска-нямецкія, вельмі напружаны. Англія і Францыя стараюцца злагодзіць гэтае напружаньне, але ці ўдасца?.

Варшава цяпер зьяўляецца цэнтрам, на які адбываецца націск двух блёкаў, каб выясьніць яе становішча. Дайшло да таго, што Францыя адкрыта паставіла пытаньне, як В. аднясецца да магчымага нападу на Чэхаславаччыну? Што Варшава адказала — мы ня ведаем, але з усяго відаць, што Варшава хоча весьці палітыку незалежную, як ад аднаго блёку, так і другога і будуе цяпер саюз нэўтральных дзяржаваў ад Балтыцкага мора да Чорнага. Гэтым тлумачыцца выезд у маі мін. Бэка ў Швэцыю і прыезд патрыярха Мірона ў Польшч. Цікава будзе адзначыць, што Польшч і Румынія заявілі, што яны не прапусьцяць праз сваю тэрыторыю ані савецкай арміі, ані сав. аэраплянаў! Гэтае становішча дало-б Нямеччыне аўтаматычна двух саюзьнікаў пры нападзе яе на Чэхаславаччыну! Яшчэ болей цікава, што Англія выразна стала на старане Чэхасл., чаго яна дагэтуль не рабіла. Відаць, зарганізавала процію Ням. коаліцыю, бо без коаліцыі Англія ваяваць ня прывыкла.

Як бачым палажэньне далей трывожнае, хоць, здаецца, вайна разыходзіцца па касьцях старой Эўропы, з тым, каб пры палітычнай „непагодзе“ добра пакруціць гэтыя косьці...

## КАЛЯ ГІШПАНІІ.

Гішпанскія справы, таксама як і чэхаславацкія, зьвярнулі на сябе ўвагу ня так ваеннымі падзеямі, якія ў маі прыціхлі, як дыпляматычнымі камплікацыямі. Справа ў тым, што пасьля ведамага паражэньня чырвоных і падзелу іх на дзьве часьці, Францыя аказала ім значную помач, што дало магчымасьць ім перайсьці ў контрнаступленьне на паўночным адцінку фронту (каля Францыі). Баі былі вельмі крывавыя і паўстанцы панясьлі вялікія страты. У адказ на гэтую помач, Муссоліні на чале сваей флёты паплыў у Генную (блізка Францыі) і там сказаў вострую прамову, у якой заатакаваў Францыю. Муссоліні заявіў, што Францыя сваей помачай адцягвае канец гішпанскай вайны, што прычыняецца да большага праліцьця крыві і гэтым робіць немагчымым нейкае італьянска-францускае паразуменьне. Іншымі славамі Муссоліні заявіў: „калі я памагаю, дык гэта нічога, але калі хто іншы, дык гэта дрэнна“...

Паўстанцы ўстаялі перад атакамі чырвоных і цяпер самі перайшлі ў наступленьне. Англія быццам устрымоўвае Францыю ад рашучай помачы чырвоным, каб не зражаць Італіі і не цэмэнтаваць гэтым восі Рым—Бэрлін. Відаць, што гэтая вось штораз болей мацнее, бо Муссоліні ў гэтай прамове заявіў, што ён нападаць на нікога ня хоча, але калі-б хто іншы напаў, дык гэта прывяло-б да ўзмацненьня італьянска-нямецкага саюзу, які пайшоўбы разам да канца...

## СПРОБЫ РЭВАЛЮЦЫІ Ў БРАЗЫЛІІ І МЭКСЫЦЫ.

У прошлым годзе адбылася ў Бразыліі рэвалюцыя, якая дала ўладу нацыяналістам з прэз. Варгасам на чале. Прэса тады пісала, што гэна рэвалюцыя была фашыстоўская і чакала нават далучэньня Бразыліі да антыкамуністычнага пакту. Аднак потым аказалася, што гэна рэвалюцыя была толькі поў-фашыстоўскай, дык суцэльныя фашысты (або г. зв. інтэгралісты) ў маі сёлета ўстроілі новую рэвалюцыю, на гэты раз ужо чыста фашыстоўскую, аднак бяз рэзультату. Прыхільнікі прэз. Варгаса ўзялі верх, сам Варгас з жонкаю і дачкою адстрэльваўся з кулямёту з свайго палацу, пакуль не прыйшла помач. (Можа найлёпшая кваліфікацыя для амэрыканскіх прэзыдэнтаў: навучыцца страляць з кулямёту!) Пасьля гэтага пачаліся рэпрэсіі адносна ўсіх сымпатыкаў перавароту і падазроных, асабліва тамашніх немцаў, італьянцаў, а нават і палякаў-каляністаў. Закрыты польскія арганізацыі і школы. Дзеля ўзмацненьня нацыянальных рухаў на ўсім сьвеце, „Kurjer Wil.“ (25. V.) заклікае стрымаць эміграцыю палякаў з Польшчы, а высылаць толькі меншасьцёвыя элемэнты! „Польскі этнаграфічны элемэнт не павінен эміграваць“—кажа „Kurjer Wil.“ і заклікае ўрад да радыкальнай зьмены польскай эміграцыйнай палітыкі ў пажаданым для дзяржавы кірунку.

**У Мэксыцы** таксама адбылася рэвалюцыя. Там прэзыдэнт Кардэнас ўдарыў па кішані англійскіх і амэрыканскіх капіталістаў, адбіраючы ад іх нафтовыя крыніцы і нават не пабаяўся парваць дыпляматычныя зносіны з самой Англіяй! Дзеля гэтага паўстала ў краі рэвалюцыя, якую падняў ген. Цэдільлё, але кожны ведае, што за ім стаіць англійскі капітал! Змаганьні ў Мэксыцы разьвіваюцца.

Наагул аб розных сярэдня і паўднёва - амэрыканскіх рэвалюцыях трэба ведаць тое, што іх выклікаюць заўсёды чужыя сілы. Гэтыя рэспублікі вельмі багаты ў розную сыравіну, дык загранічны капітал зьвіў там для сябе моцныя гнёзды. Калі ўрад данай рэспублікі спаўняе жаданьні капіталістаў, дык усё ідзе добра і спакойна, але калі зажадае большых падаткаў, або якім іншым спосабам нарушыць іх інтарэсы, яны наймаюць якога генэрала, даюць яму грошы, той набірае сабе „войска“ і рэвалюцыя гатова. У будучыне, калі і гэты ў нечым не дагадзіў, паўтараецца тое самае і так без канца... Дык чуючы аб амэрыканскіх рэвалюцыях, трэба заўсёды пашукаць „прычыны“ яе, а тады ўсе стане ясным.

Мэксыка—гэта вялізарная краіна (2 мільёны кв. км.), 15 мільёнаў жыхарства (20 прац. белых, 35 прац. індыйцаў, 45 прац. мяшанцаў), дагэтуль нацыянальна нясьведамая, дык вельмі падатлівая на рознага роду чужацкія агентуры. Цяпер няцыянальна будзіцца і гоніць вон чужацкіх экплёататараў. Тыя ўступаць ня хочуць — згэтуль і „рэвалюцыя“.

---

3. V. у Бел. Нав. Т-ве мгр. М. Шкялёнак прачытаў рэфэрат на тэму **„Тэорыя літоўскае экспансіі і яе крытыка“.** Зьмест рэфэрату наступны. За малымі выняткамі польскія і расейскія дасьледчыкі гісторыі Вял. Кн. Літоўскага трымаюцца пагляду, што гаспадарства гэта было створана шляхам падбою літоўцамі (у этнографічным разуменьні) беларускіх абшараў **Полаччыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Севершчыны, Турава-Піншчыны,** а перш-на-перш г. зв. **Чорнай Русі** з горадамі Навагрудкам, Слонімам, Ваўкавыскам і Горадняй. А дзеля таго што жаролы не зьмяшчаюць дадзеных ані аб падбою гэтых земляў ані тым больш канкрэтных дадзеных, калі гэтыя заваяваньні адбыліся, прыхільнікі ўспомненай тэорыі штучна стараюцца вывесьці гэтыя даты шляхам сваіх асабістых разважаньняў. Прэлегент паддаў падрабязнай крытыцы гэтыя разважаньні найвыдатнейшых прадстаўнікоў літоўскай экспансіі і зьвярнуў увагу на неабходнасьць зьвяртацца ў гэтай квэстыі толькі да гістарычных крыніц і не паддавацца дасюлешнім часта зусім фантастычным разважаньням! А крыніцы паказваюць, што ядром будучага гаспадарства Вял. Кн. Літ. была беларуская Чорная Русь. Згэтуль „экспансія“ маладога гаспадарства ахапіла ня толькі беларускія землі, але і этнографічна літоўскія (Жмудзь і Аўкштоту). Тады як літоўскія землі былі далучаны часткава аружнай сілай, беларускія землі далучаліся да Чорнай Русі (сталіца Наваградак) на асновах шырокага фэдэралізму дабравольна. Дзейнікамі, злучаўшымі беларускія землі ў вадно гаспадарства, былі: вонкавая небясьпека, эканамічныя інтарэсы, аснова фэдэралізму, утварэньне ў Наваградку беларускага рэлігійнага цэнтру (мэтраполіі 1295 г.) і беларускасьць новага гаспадарства, у якім ад пачатку запанавала беларуская мова, установы і звычаі. Калі і дапусьціць, што дынастыя Міндаўга ня была чыста беларускага паходжаньня (гэта ёсьць спорным у навуцы). дык гэты факт абсалютна ня мог зьмяніць беларускага характару новага гаспадарства. Урэшце першыя „літоўскія“ гаспадары выступаюць ня толькі як зусім зьбеларушчаныя, але і як праваднікі інтарэсаў беларускае тагачаснае палітыкі.

## КРУТНЯ „ШЛЯХУ МОЛАДЗІ“.

У мінулым годзе, як нашы чытачы помняць, пачалася вельмі вострая палеміка „Шляху М.“ з „Бел. Фронтам“ у справе ажыўленьня дзейнасьці „Бел. Гаспадарскага Зьвязу“. „Бел. Фронт“ (5. IX. 37) выступіў з ініцыятывай ажывіць дзейнасьць „Зьвязу“, як адзінай у апошні час бел. культурна-прасьветнай арганізацыі, а „Шлях М.“ (15. IX. 37) выступіў процiў, называючы нашу прапазыцыю безгалоўем, бязглузьдзем, даносам і правакацыяй. Усе тады зразумелі, што „Ш. М.“ дзеля таго так востра выступае процiў ажыўленьня „Зьвязу“, што баіцца з яго боку канкурэнцыі для свае арганізацыі (моладзі), якая тады мелася закладацца. Але прайшло некулькі месяцаў, жаданьне „Ш. М.“ споўнілася, „Зьвяз“ закрыты адм. уладамі—дык цяпер „Ш. М.“ (25. V.) ужо інакш пяе: ён перакруціў усё дагары нагамі і піша, што гэта „Б. Фр.“ хацеў зьліквідаваць „Зьвяз“! Спытаемся ў рэдактароў „Ш. М.“, нашто гэтая крутня? Каб ніхто ня помніў становішча „Ш. М.“ у справе „Зьвязу“, дык можна было-б пераіначыць і зваліць віну на нас ці на каго іншага, але калі людзі добра помняць выступленьне „Шляху М.“ процiў „Звязу“, дык такое перакручваньне фактаў проста нячэснае. Гэта сьведчыць аб нястачы ў рэдактароў „Ш. М.“ элемэнтарных падстаў хрысьціянскай этыкі, на якую яны так часта любяць паклікацца. Стыдна!

---

*З прычыны нястачы месца, „нашай пошты“ ў гэтым нумары не маглі зьмясьціць. Адказы даём пісьмамі. Рэд.*

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**інж. Л. Дубейкаўскі,**
**мгр. В. Гадлеўскі,**
**мгр. М. Шкелёнак,**
**студ. В. Папуцэвіч.**

Адказны рэдактар:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друкарня М. Багаткевіча і В. Труцько. Вільня, вул. Ад. Міцкевіча 22-а.